# ЗЬМЕСТ.





## Аб спыненьні разьездаў за адшуканьнем тавараў у іншых раёнах.

*Усім організацыям спажывецкай коопэрацыі.*

За апошні час зноў участіліся выпадкі, калі спаж. таварыствы разьяжджаюць у вышуках тавараў, затрачваючы на гэта шмат сродкаў, у той час, калі ў большасьці выпадкаў гэтыя тавары маюцца ў адпаведных Райсаюзах і аддзяленьнях.

Праўленьне Белкоопсаюзу сваёй пастановай забараніла падобныя разьезды і паказала, што пры зварочваньні спаж. таварыстваў непасрэдна ў Белкоопсаюз, тавары гэткім спаж. таварыствам адпушчацца ня будуць.

Зварочваючы ўвагу, што гэтая пастанова многімі спажыўтаварыствамі ня выконваецца, Праўленьне Белкоопсаюзу прапануе:

Спаж. таварыствам спыніць гэткія разьезды, а зварочвацца непасрэдна ў свае Райсаюзы, або аддзяленьні.

У далейшым ніякія водпускі тавараў спажыўтаварыствам са складаў БКС утварацца ня будуць.

Райсаюзы і аддзяленьні павінны ўзмацніць забесьпячэньне спаж. таварыстваў тымі таварамі, якія зьяўляюцца дастатковымі.

Неабходна павялічыць асортымэнт галянтарэйна-трыкатажных, абутковых тавараў і гатовага аддзеньня на сваіх цэнтральных складах і базах.

Больш дакладна ўстанавіць патрэбы ў гэтых таварах асобных раёнаў, якія абслугоўваюцца тым ці іншым Саюзам, або яго аддзяленьнем.

Нам. Старшыні Праўленьня БКС **Хаскін.**

Сакратар Праўленьня **Вечар.**

№ 538. 12-I—1929 г.

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ІНФОРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛКООПСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Адрас: Менск, Савецкая вул., № 43

№ 3 (12) | 23 студзеня 1929 г. | № 3 (12)



## Вынікі кон'юнктуры за сьнежань.

*(Па матар'ялах плянава-эканамічнага бюро БКС).*

*Зацьверджана Праўленьнем БКС 19-I-29 г., прат. № 75-145.*

1. Кон'юнктура за сьнежань прадаўжала разьвівацца пад узьдзейнічаньнем асноўных фактараў, якія абумовілі далейшае абвастрэньне разрыву паміж таварным попытам і прапановай. Узвышанаму, у параўнаньні з папярэднімі месяцамі бягучага кварталу, попыту гарадзкога насельніцтва і ў асаблівасьці сельскага, процістаяла пагоршаньне прапановы прамтавараў у асноўным за кошт далейшага (супроць лістапада) скарачэньня завозу ў БССР як прамысловых тавараў, так і сельгаспрадуктаў.

Паступленьне завазных тавараў у сьнежні аказалася на больш нізкім узроўні супроць лістапада, таксама паніжанага ў параўнаньні з папярэднім яму месяцам (кастрычнікам), пры адваротных тэндэнцыях у адпавядаючых месяцах мінулага году.

2. Гэтае становішча абумовіла павялічэньне ўжо дастаткова шырокага кола дэфіцытных тавараў. Дэфіцытнымі сталі—рафінад (для сельскай сеткі) і дробны скабяны тавар.

Глыбіня дыфіцытнасьці ўзрасла па тэкстылю, падошвенай скуры, галёшах, па ўсіх відах папяровай прадукцыі, кандытарскіх вырабах, макаронах, рысу і чаю. Адноснае заспакаеньне, як і ў мінулым м-цы, наглядалася на хлебным рынку, хаця недавыкананьне пляну завозу закранула запасы.

3. Пагоршаньне ў здавальненьні попыту насельніцтва Беларусі, якое адзначаецца з месяцу ў месяц па асноўных таварах спажываньня, яшчэ раз са ўсёй настойлівасьцю высоўвае задачу рашучага прыняцьця мер для павялічэньня таваразабесьпячэньня БССР і, разам з гэтым, неабходнасьць пераходу сыстэмы на больш асьцярожнае разьмяркоўваньне тавараў, на забесьпячэньне якімі маюцца няспрыяючыя пэрспэктывы.

4. Праца ўсёй сыстэмы з прадукцыяй мясцовай прамысловасьці розгортваецца па лініі, галоўным чынам, гатовага адзеньня, галянтарэі і гатовага абутку. Аднак, значнай затрымкай для больш шырокай працы з мясцовай прадукцыяй прадаўжалі заставацца ўжо адзначаныя ў папярэдніх аглядах—нізкая якасьць (боты і іншае) і непрыстасаванасьць гатовага зімняга адзеньня да запатрабаваньняў пераважна сельскага насельніцтва (малыя разьмеры, непадыходзячыя фасоны, ударажэньне зімняга таннага адзеньня дарагімі каўнярамі і г. д.). Улічваючы тое, што, у сувязі з сэзонным зацішшам, з боку шэрагу організацый наглядаецца імкненьне скараціць выбарку належачай па

пляну нормы гатовага адзеньня, з боку Опэрацыйнага кіраўніцтва БКС патрэбен шэраг мерапрыемстваў, забясьпечваючых поўнае выкананьне маючыхся гэндагавароў.

5. Загатоўчая праца па сыстэме спажыўкоопэрацыі ў сьнежні выявіла сваё далейшае спрыяючае разьвіцьцё ў параўнаньні з папярэднім месяцам. Пляны за сьнежань выкананы: па хлебапрадуктах на 109,2 проц., ільнанасеньню—96 проц. (зьніжэньне сэзону), па ўсіх відах сыравіны—122,3 проц. Разам са здавальняючым выкананьнем загатоўчага пляну ў агуле і па галоўных відах яго, належыць адзначыць:

а) невыкананьне па ўсёй сыстэме ў агуле плянавых заданьняў па некаторых другарадных відах сыравіны (рызьзё 47,8 проц., яйкі 24,5 проц., грыбы 32,3 проц., розныя—19,5 проц. і г. д.), з прычын у асноўным об'ектыўных і акрамя іх, з прычыны магчымага паслабленьня ўвагі да гэтых відаў загатовак з боку організацый, а магчыма і плянавых пралікаў;

б) невыкананьне некаторымі організацыямі сваіх плянавых заданьняў: па хлебапрадуктах—Полацкая акруга—50 проц., Віцебская—72 проц., Гомельская—95 проц.; па ільнанасеньню—Полацкая акруга—68 проц., Віцебская—47 проц.; па ільнавалакну—Бабруйская—67 проц.; буйнай скурасыравіне—Полацкая—82 проц.; дробнай скурасыравіне—Мазырская—67 проц., Полацкая—55 проц. і Аршанская—59 проц.; шчацiньню—Мазырская 67 проц., Гомельская—80 проц.; конволасу—Бабруйская—66 проц.; пушніне і мехсыравіне—Бабруйская—71 проц., Мазырская—66 проц., Гомельская—62 проц.

6. Сыстэма спажыўкоопэрацыі, за выключэньнем Белкоопсаюзу, уступіла ў паласу ўзмацніўшагася, у параўнаньні з кастрычнікам, фінансавага напружэньня, пры адваротным становішчы ў сьнежні мінулага году. Асноўнымі вызначаючымі гэтае напружэньне фактарамі па асобных зьвеньнях па матар'ялах карэспандэнцкіх данясеньняў зьяўляюцца:

а) па Райсаюзах—недастатковае авансаваньне загатоўчых опэрацый, грамозкае прахаджэньне разьлікаў з пастаўшчыкамі за сыравіну, якое затрымлівае сваечасовую выплату грошаў, а таксама ўжываньне некаторымі організацыямі больш ільготных разьлікаў для сваёй нізоўкі;

б) па рабоча-гарадзкой сетцы—утварэньне даволі значных запасаў некаторых прадуктовых груп (хлеб, бульба, сала рыба і г. д.), якія ў значнай частцы фінансуюцца ўласнымі сродкамі, выключэньне са звароту каля 800 тысяч рублёў на выплату прампадатку ў пэрыяд найбольш павышанага гандлёвага попыту, а таксама некаторыя паказаньні на пагоршаньне ўмоў разьліку з пастаўшчыкамі;

в) па сельскай сетцы (у некаторых організацыях)—загрузка ўласных сродкаў у загатоўчую сыравіну і ўтварэньне хлебных фондаў для забесьпячэньня некаторых груп сельскага неземляробскага насельніцтва ў раёнах спажыўтаварыстваў

Абвастрэньне фінансавых паказальнікаў разгортвалася на агульным фоне нездавальняючага зьбіраньня паявых капіталаў і недавыкананьня плянавых заданьняў у папярэднія месяцы.

Пацьвердзіць пастанову Праўленьня па пытаньні аб магчымых аслажненьнях з плацежаздольнасьцю асобных Райсаюзаў і ЦРК і абавязаць Фінансавае кіраўніцтва БКС у трох-дзённы тэрмін распрацаваць гэтае пытаньне і ўнесьці на разгляд наступнага пасяджэньня Праўленьня.

---

**З 15-га лютага ў горадзе і з 1-га сакавіка ў вёсцы пачынаецца справаздачна-перавыбарчая кампанія коопэрацыі.**

**Коопэратары, памятайце, што толькі добрая падрыхтоўка да правядзеньня справаздачных і перавыбарчых сходаў пайшчыкаў, упаўнаважаных забясьпечыць поўны і актыўны ўдзел коопэраваных мас у абгаварэньні працы коопэрацыі!**

# *Оргнарада рабочай коопэрацыі БССР.*

## *29-XI—1-XII 1928 г.*

### **Бліжэйшыя задачы оргпрацы.**

(*Рэзолюцыя па дакладу тав. Флеера*).

*Зацьверджана Прэзыдыумам Белрабсэкцыі ад 14 сьнежня 1928 г. пр. № 7.*

1. Мінулы гаспадарчы год характарызуецца шэрагам посьпехаў рабочай коопэрацыі ва ўсіх яе галінах дзейнасьці.

Організацыйная і грамадзка-масавая праца ЦРК значна пасунулася наперад, і разам з ростам гаспадарчай дзейнасьці рабочай коопэрацыі мы маем шмат дасягненьняў і ў галіне організацыйнай працы.

2. Зрух у разьвіцьці організацыйнай і грамадзка-масавай працы ЦРК выражаецца: а) у росьце і ажыўленьні дзейнасьці коопактыву; б) у выяўленьні конкрэтных і мэтазгодных форм працы коопэрацыйна-крамавых камісій і ўпаўнаважаных; в) ва ўзмацненьні коопэрацыйна-асьветнай, масавай і бытавой працы; г) у значным узмацненьні працы па коопэраваньні беднаты і збораў паёў; д) у актыўным садзейнічаньні гэтай справе з боку коопэрацыйна-крамавых камісій, упаўнаважаных і працаўнікоў гандлёвых пунктаў; е) у стварэньні коопэрацыйнага пэрыядычнага друку на мясцох; ж) у правядзеньні шэрагу конкрэтных мерапрыёмстваў рацыяналізацыі працы і з) у некаторым узмацненьні грамадзкае ўвагі да організацыйнай і масавай працы рабочай коопэрацыі.

3. Амаль манапольнае становішча рабочай коопэрацыі на гарадзкім рынку з прычыны хуткага разьвіцьця яе гаспадарчай дзейнасьці і яшчэ шпарчэйшае выцясненьне прыватніка, а таксама ліквідацыя шэрагу другіх гандлёвых прадпрыёмстваў, у вялізарнай меры ўзмацняе адказнасьць рабочай коопэрацыі перад організованым спажыўцом. Гэтыя абставіны ставяць пытаньне яшчэ аб большым узмацненьні організацыйнай працы ЦРК і аб больш шырокім разьвіцьці гэтай дзейнасьці на падставе вопыту, які маецца, і ў адпаведнасьці з чарговымі задачамі рабочай коопэрацыі.

4. Формы і шляхі разьвіцьця організацыйнай дзейнасьці ЦРК азначаюцца задачамі рабочай коопэрацыі, як грамадзка-масавай організацыі і як асноўнага воргану абслугоўваньня мас спажыўцоў. У сувязі з гэтым організацыйная праца ЦРК накіроўваецца па лініі: а) рацыяналізацыі працы ў мэтах лепшага абслугоўваньня спажыўца, б) далейшага разьвіцьця коопэрацыйнай грамадзкасьці.

5. Дасягненьні ў галіне *коопэраваньня насельніцтва і збору паёў* выявіліся ў павялічэньні за мінулы год агульнага ліку пайшчыкаў на 42,4 проц. супроць павялічэньня на 28 проц. у 1926-27 г., і росьце паявога капіталу на 128,2 проц., у параўнаньні з ростам на 76,9 проц. у 1926-27 г.

Посьпехі ў галіне коопэраваньня і збору паёў тлумачыцца павышэньнем ролі рабочай коопэрацыі ў справе забесьпячэньня насельніцтва, ростам культурнага ўзроўню рабочых мас, узмацненьнем увагі ЦРК справе коопэраваньня і збору паёў, узмацненьнем працы кооп. актыву і садзейнічаньнем грамадзкіх організацый гэтай справе.

Практыка коопэраваньня і збору паёў праз коопактыў і магазыны пры адначасовым устанаўленьні кантрольных лічбаў для кожнай адзінкі і пры пераважным водпуску дэфіцытных тавараў пайшчыкам усюды сябе апраўдала.

Па асобным арганізацыям маюцца адступленьні ад прыведзеных сярэдніх лічбаў у выніку, галоўным чынам, прымяненьня неаднальковых мэтадаў коопэраваньня.

6. Слабым бокам у справе коопэраваньня і збору паёў зьяўляецца недастатковае ўцягненьне кооп. актыву ў гэтую працу, кампанейскі характар працы па шэрагу ЦРК, недастатковая ўвага пытаньню спрашчэньня і аблягчэньня тэхнікі афармленьня членства і ўзносаў паёў, нявысокае коопэраваньне другіх членаў сям'і і моладзі, значны недабор да статутнага паю. Для ўзмацненьня працы па коопэраваньні і збору паёў неабходна праводзіць: а) коопэраваньне ня ўцягнутых у рабочую коопэрацыю членаў профсаюзаў і максымальнае коопэраваньне новых груп рабочых, якія ўліваюцца ў нашу прамысловасьць, а таксама сэзонных рабочых. Асаблівая ўвага зьвяртаецца на падцягваньне тых профсаюзаў, якія па коопэраваньні адстаюць; б) узмацненьне коопэраваньня жанчын-работніц, хатніх гаспадынь і моладзь; в) коопэраваньне асноўных груп неарганізаванага насельніцтва: саматужнікаў, асоб, якія атрымоўваюць дапамогу ад камітэтаў грамадзкай узаемадапамогі і іншых груп працоўнага насельніцтва (якія карыстаюцца выбарчым правам у Саветы), пражываючых у раёне дзейнасьці ЦРК; г) дальнейшае правядзеньне прынцыпу матэр'яльнай зацікаўленасьці поўнапайных і акуратна ўносячых паі пайшчыкаў шляхам пераважнага водпуску дэфіцытных тавараў і пераважнага культурна-бытавога абслугоўваньня; ухутчэньне распрацоўкі пытаньня аб двух цэнах, прыняцьцё мер да забесьпячэньня дэфіцытнымі таварамі пайшчыкаў-адзіночак і неабхопленых коопактывам пайшчыкаў; е) устанаўленьне адзінага паю для розных ільготных груп (акрамя аслабанёных ад паю) у разьмеры паловы існуючага статутнага паю, г. зн. 7 р. 50 к.; ж) узмацніць практыку збору паёў праз коопактыў на мясцох і праз магазыны, устанаўляючы для кожнай адзінкі кантрольныя лічбы і сыстэматычна наглядаючы за іх выкананьнем; з) праводзіць конкурсы на лепшую коопкамісію з колектыўным і індувідуальным прэміраваньнем.

Лічыць неабходным паскорыць пераход на дыфэрэнцыраваны пай, бо зацягненьне ў вырашэньні гэтага пытаньня пагражае зрывам выкананьня кантрольных лічбаў па збору паёў. Выкарыстаць справаздачна-перавыбарчую кампанію для правядзеньня шырокай растлумачальнай працы аб неабходнасьці пераходу на дыфэрэнцыраваны пай. Шкалу дыфэрэнцыяцыі ўстанавіць на перавыбарчых сходах упаўнаважаных.

У выпадку, калі да моманту перавыбарчага сходу ўпаўнаважаных яшчэ ня будзе высьветлена шкала дыфэрэнцыяцыі, лічыць неабходным пераход на гэтых сходах на дыфэрэнцыраваны пай са ўзысканьнем у рахунак гэтага паю да ўстанаўленьня цьвёрдай шкалы 20 руб., заставіўшы для нізка-аплачываемых груп існуючы разьмер паю ў 15 руб.

7. Уцягненьне сродкаў насельніцтва ў коопэрацыйны зварот не павінна абмяжоўвацца толькі зборам паявых узносаў. Вельмі важным у гэтых адносінах зьяўляецца прыцягненьне ўкладаў і авансаў.

Укладныя опэрацыі атрымалі па рабочай коопэрацыі Беларусі вельмі слабое разьвіцё, між тым, як у шэрагу другіх ЦРК Саюзу ў гэтых адносінах маюцца вялікія дасягненьні. Пры належнай пастаноўцы працы і пры правядзеньні шырокай растлумачальнай кампаніі магчыма будзе, ня гледзячы на загружанасьць рабочага бюджэту ў сучасны момант, дабіцца пэўных дадатных вынікаў. Неабходна дабіцца пералому ў гэтай працы, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на прыцягненьне ад пайшчыкаў авансаў на забор тавараў.

8. У працы *Інстытуту Ўпаўнаважаных* выявіўся шэраг конкрэтных дадатных момантаў. Склад упаўнаважаных выяўляе наогул сьвядомы падыход да выкананьня сваіх абавязкаў. Здаровая крытыка, жыцьцёвыя прапановы,—зьяўляюцца характэрнай рысай пленумаў і сэкцый упаўнаважаных. Асобныя ўпаўнаважаныя ўцягваюцца ў практычную працу коопэрацыі ўдзелам ў абсьледваньнях дзейнасьці коопкамісій і розных галін працы ЦРК, а таксама ўдзелам у камісіях па разбору скарг пайшчыкаў.

9. Неабходна разам з тым адзначыць, што рэгулярнасьць і конкрэтны характар працы сэкцый упаўнаважаных і ўцягненьне ў практычную коопэрацыйную працу асобных упаўнаважаных бывае далёка ня ўсюду і зьяўляецца ня масавай зьявай. Упаўнаважаныя яшчэ недастаткова сябе адчуваюць, як гаспадары коопэратыва, і ня поўнасьцю адчуваюць адказнасьць за працу ЦРК. Процант наведваньня сэкцый упаўнаважаных нязысокі. Значная частка ўпаўнаважаных зусім ня ўцягнута ў працу сэкцый. Справаздачнасьць упаўнаважаных перад пайшчыкамі разьвіта слаба. Прыцягненьне іх у якасьці дакладчыкаў ад праўленьня на перавыбарчых сходах зьяўляецца толькі асобнай спробай ЦРК. Амаль не праводзіцца праца па павышэньню коопэрацыйнай пісьменнасьці ўпаўнаважаных.

10. Упаўнаважаныя, якія зьяўляюцца асноўным актывам рабочай коопэрацыі, павінны прыцягнуць да сябе больш увагі праўленьняў ЦРК. У першую чаргу неабходна ўсюды дабівацца рэгулярнай працы сэкцый упаўнаважаных.

Прапрацоўцы сэкцый павінны падлягаць, галоўным чынам, конкрэтныя найбольш важныя пытаньні бягучай працы. У склад бюро сэкцый павінны ўваходзіць па аднаму працаўніку адпавядаючых аддзелаў ЦРК. Неабходна ўсямерна пашыраць вопыт уцягненьня асобных упаўнаважаных у практычную працу коопэратыва, шляхам прыцягненьня іх да ўдзелу ў абсьледваньнях, ускладваньнем на іх самастойных абсьледаваньняў і шырокага прымяненьня камісійнага мэтаду для прапрацоўкі асобных пытаньняў. Неабходна таксама шырэй праводзіць справаздачнасьць упаўнаважаных перад пайшчыкамі. Для павышэньня агульнага культурнага ўзроўню і коопэрацыйнай падрыхтоўкі упаўнаважаных неабходна організаваць для іх (разам з коопкамісіямі) коопэрацыйныя школы і курсы. Уся праца сярод упаўнаважаных (і коопактываў цалкам) павінна праводзіцца з пункту гледжаньня, што яны зьяўляюцца сапраўднай крыніцай для высоўваньня на практычную коопэрацыйную працу.

11. *Праца коопэрацыйна-крамавых камісій* на падставе палажэньня Бэлрабсэкцыі і ЦСПСБ сябе апраўдала. Такая сыстэма будовы коопэрацыйнага актыву ўзмацняе сувязь апошняга з коопэраванай масай і з профорганізацыямі і значна палягчае кіраўніцтва з боку ЦРК.

Коопэрацыйна-крамавыя камісіі праводзілі вялікую працу па коопэраваньні і збору паёў, а ў некаторых мясцовасьцях і коопэрацыйна-асьветную працу. Пленумы-нарады коопкамісій, конкурсы на лепшую камісію і масавыя абсьледваньні іх дзейнасьці, якія праводзіліся, ажывілі іх працу і ўзмацнілі ўвагу мас да ЦРК. Удзел коопкамісій у разглядзе скаргаў пайшчыкаў і іхназіраньне за працай лавак—рабіла пэўны ўплыў на паляпшэньне гаспадарчай дзейнасьці рабочых коопэратываў.

12. Пройдзены пэрыяд працы коопэрацыйна-крамавых камісій выявіў і шэраг недахопаў. Да іх адносяцца: а) фактычнае вядзеньне працы некалькімі членамі камісіі пры пасыўнасьці астатніх; б) недастатковая сувязь з проф. ячэйкамі на мясцох; в) яшчэ ня зусім наладжаная праца камісій у крамах; г) неахоп камісіямі дробных колектываў і пайшчыкаў-адзінак; д) нізкі процант жанчын у складзе камісій (23,1 проц.) і зусім нязначны процант хатніх гаспадынь (3,4 проц. ; е) недастатковае кіраўніцтва працай коопкамісій з боку некаторых ЦРК; ж) адсутнасьць належнай працы па ўзвышэньні ўзроўню коопэрацыйных ведаў членаў камісій.

Да агульных недахопаў працы коопэрацыйна-крамавых камісій трэба аднесьці неўрэгуляванасьць узаемаадносін упаўнаважаных і крамкамісій на прадпрыемствах па шэрагу ЦРК.

13. Коопэрацыйна-крамавыя камісіі зьяўляюцца адным з асноўных сродкаў, які зьвязвае ЦРК з коопэраванай масай, і лепшай школай коопэрацыйнай працы. Належная пастаноўка працы камісіі і наладжваньне кіраўніцтва іх дзейнасьцю павінна пагэтаму зьяўляцца адным з важнейшых момантаў оргпрацы ЦРК. Для гэтага *неабходна:*

а) ускласьці кіраўніцтва коопэрацыйна-крамавымі камісіямі на спэцыяльнага працаўніка ЦРК і ўзмацніць жывую сувязь і інструктаваньне камісій;

б) прызнаць неабходным удзел прадстаўнікоў ЦРК у організацыйных і іншых найбольш важных пасяджэньнях коопкрамкамісій;

в) практыкаваць у мэтах абмену вопытам, разам з рэгулярным склі-каньнем пленумаў камісій па агульных і спэцыяльных пытаньнях, аб-сьледваньне працы коопкамісій, з прыцягненьнем да гэтага ўпаўнаважа-ных і прадстаўнікоў іншых камісій;

г) праводзіць адпавядаючыя мерапрыемствы па наладжваньню ўзаема-адносін працаўнікоў прылаўку і коопкамісій (удзел заг. магазынаў на пленумах коопкомаў і прадстаўнікоў коопкомаў на нарадах заг. магазы-наў, даклады крамкомаў на пасяджэньнях коопкомаў і г. д.); наладзіць удзел коопкрамкамісій у эканомпрацы; урэгуляваць справаздачнасьць коопкамісій і заг. крамамі перад спажыўцом адпавядаючых крам пэры-ядычным скліканьнем сходаў пайшчыкаў па адпавядаючых раёнах;

д) павялічыць у час перавыбараў лік жанчын, асабліва хатніх гаспа-дынь, у складзе коопэрацыйна-крамавых камісій;

е) дабіцца больш уважлівых адносін нізавых проф. ячэяк да працы камісій;

ж) на буйных прадпрыемствах рэорганізаваць коопэрацыйна-крамавыя камісіі ў крамавыя, яднаючыя на гэтых прадпрыемствах працу членаў крамкамісій, упаўнаважаных, дэлегатак коопсэкцый і іншага коопактыву, з вылучэньнем з іх складу кооппбюро, забясьпечыўшы ў апошнім кіраў-нічую ролю ўпаўнаважаных; на дробных прадпрыемствах захаваць па існуючаму палажэньню коопэрацыйна-крамавыя камісіі, ускладаючы на старшыню і сэкратара гэтых камісій кіраўніцтва коопактывам на прад-прыёмствах. У невялічкіх колектывах (10—15 ч.) ня маючых свайго ўпаўнаважанага, замест коопкамісій выбіраецца коопорганізатар;

з) прызнаць немэтазгодным існуючую па некаторым ЦРК практыку прымацаваньня некалькіх камісій да аднаго гандлёвага пункту;

і) неабходна дабіцца перад належнымі організацыямі аб прыраўненьні коопнагрузкі да грамадзкай і профэсыянальнай нагрузкі.

Белрабсэкцыі неабходна распрацаваць пытаньне аб організацыі кооп-актыву для правядзеньня кооп. працы сярод неорганізованага насель-ніцтва.

14. Практыка вельмі шырокага складу праўленьняў сябе не апраў-дала. Прызнаць мэтазгодным пры перавыбарах устанавіць наступны коль-касны склад праўленьняў, які зьяўляецца найбольш працаздольным: для дробных ЦРК—3 чалавекі, для сярэдніх—5 чал. і для буйных—7 чал.

З усяго складу вылучаецца стала-працуючая частка праўленьня (рабо-чая частка) колькасьцю ў залежнасьці ад мясцовых абставін з уськла-дзеньнем на кожнага з рабочай часткі сапраўднай нагрузкі (організа-цыйнай ці опэрацыйнай) па апарату.

15. *У працы рэвізыйных камісій* наглядаецца некаторы зрух у сэнсе ўмацненьня іх грамадзкага кантролю і сталага нагляданьня над дзей-насьцю рабочых коопэратываў. У некаторых выпадках рэвізыйныя камі-сіі праводзілі з удзелам коопактыву абсьледваньне асобных галін працы, аказваючы гэтым уплыў на далейшы ход працы.

Неабходна дабіцца больш плянамернай дзейнасьці рэвізыйных камі-сій па правядзеньні грамадзкага кантролю і сталага назіраньня над пра-цай ЦРК. У працу рэвізыйных камісій павінен быць ўцягнуты увесь яе склад і коопактыў. Павінна быць узмацнёна справаздачнасьць рэвізыйных камісій перад пайшыкамі і коопактывам. Асаблівую ўвагу неабходна зьвяр-нуць на добры падбор складу ў сэнсе яго працаздольнасьці і грамадзкага аўтарытэту.

16. *Грамадзка-масавая праца ЦРК* налічвае за апошні час шэраг но-вых форм і выклікае цікавасьць коопэраваных мас. Пэрыядычныя коопэ-рацыйныя лісткі Гомельскага і Віцебскага ЦРК і Белрабсэкцыі, шырокае выкарыстаньне мясцовага друку Бабруйскім і Полацкім ЦРК, узмацняе коопэрацыйную актыўнасьць мас. Пасьпяхова праводзяць вечары пытань-няў і адказаў з выдачай прэмій (Гомель); коопэрацыйныя гутаркі на прад-прыемствах у часе абедзеннага перапынку апраўдалі сябе, як форма маса-

вай працы. Па шэрагу гарадоў праведзены конкурсы на лепшую кооп-камісію, на лепшага заг. магазына і прадаўца. Шырокі ўдзел прымалі ЦРК у правядзеньні МДК і ў сьвяткаваньні дзесяцігодзьдзя Кастрычніка; у Гомелі праведзен грамадзкі абгляд ЦРК, а ў Менску—мітынг-пераклічка.

Перавыбарчая кампанія, кампанія па зьніжэньню цэн, шэраг плянавых справаздачных сходаў ЦРК на прадпрыемствах, арганізаваныя Менскім і інш. ЦРК (разам з Саюзамі) «сустрэча» прадаўца з спажыўцамі,— усё гэта выяўляла павышэньне коопэрацыйнай грамадзкасьці пайшчыкаў і грамадзка-масавай працы ЦРК.

17. Горш пастаўлена справа *коопэрацыйнай асьветы і бытавой працы* ЦРК. Праца коопкуткоў і коопэрацыйная праца ў клюбах, за невялікім выключэньнем, не атрымала адпаведнага разьвіцьця. Недастаткова разгорнута праца коопгурткоў, зусім адсутнічаюць стала працуючыя коопэрацыйныя курсы і школы для пайшчыкаў і кооп. актыву. Выдаткі культсродкаў вытвараюцца немэтазгодна і не па простаму назначэньню.

Толькі за апошні час наглядаецца некаторае пасоўваньне і ў гэтай галіне (курсы для прадаўцоў, коопактыву і г. д.).

У галіне бытавой працы на мясцох зьвяртаецца больш увагі часовым прадпрыемствам (дзіцячыя пляцоўкі) пры вельмі нязначнай колькасьці стала-дзейнічаючых бытавых установ. У некаторых выпадках ЦРК абмяжоўваецца толькі перадачай сродкаў другім організацыям для пабудовы дзіцячых пляцовак і на другія мерапрыемствы.

18. Далейшае разьвіцьцё грамадзка-масавай працы ЦРК зьяўляецца першай задачай дню. Белрабсэкцыі неабходна аб'яднаць вопыт асобных організацый з мэтай яго прымяненьня астатнімі ЦРК. Неабходна організаваць з складу кооп. актыву групы коопэрацыйных дакладчыкаў, якія павінны стаць апорай ЦРК ў яго грамадзка-масавай працы. Для досьледаў неабходна па буйных ЦРК вылучыць групу інструктароў-грамадчыкаў з уцягненьнем іх у працу Оргаддзелаў. Перавыбарчая і інш. кампаніі павінны ахапіць усіх пайшчыкаў. Асабліва дасканальна павінен вясьціся вучот прапаноў пайшчыкаў і разгляд іх скаргаў. Неабходна вывешваць у магазынах, сталоўках, клюбах і на прадпрыемствах насьценныя справаздачы і асноўныя дыяграмы працы ЦРК.

19. Выдаткоўваньне культсродкаў павінна ў далейшым праводзіцца выключна па прызначэньню ў каштарысна-плянавым парадку. Неабходна строга праводзіць вызначаныя Сходам Упаўнаважаных БКС адлічэньні з прыбыткаў і па каштарысу на култпатрэбы. Па ўсіх ЦРК павінны быць організованы стала-працуючыя школы і курсы для коопактыву і па лікідацыі кооп. няпісьменнасьці сярод пайшчыкаў, а гэтак-сама курсы кройкі і шыцьця. Неабходна пашырыць лекцыйную працу; укараняць практыку завочнага абучэньня. Праца ў клюбах і чырвоных кутках павінна праводзіцца разам з профорганізацыямі на аснове згоды з апошнімі і ўнясеньня ў пляны працы. Неабходна дабіцца правядзеньня ў праўленьні клюбаў працаўнікоў з коопактыву. Неабходна гэтак-сама належным чынам паставіць культ. працу ў сталоўках; пабудова радыё, чыталень, упрыгажэньне дыяграмамі, малюнкамі і г. д. Неабходна пашырыць і ўзмацніць працу па беларусізацыі і разьвіцьці працы на нацмовах.

20. Рабочая коопэрацыя павінна організоўваць стала-працуючыя бытавыя ўстановы: дзіцячыя сады і ясьлі, куткі і магазыны «Маці і Дзіця». Бытавыя ўстановы павінны організоўвацца ў рабочых раёнах і па жылтаварыствах. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на палепшаньне грамадзкага харчаваньня і хлебапячэньня. Трэба прыступіць да шырэйшай організацыі культурных чайных. Неабходна распаўсюджваць практыку водпуску абедаў на дом і на прадпрыемствы. Усе захады павінны быць накірованы на паляпшэньне якасьці печанага хлеба, каб канчаткова аслабаніць працоўную жанчыну ад хатняга хлебапячэньня. Неабходна шырэй організаваць вакол гэтых мерапрыемстваў коопэрацыйную і савецкую грамадзкасьць.

Пры ўсіх сталоўках павінны быць організованы коопэрацыйныя і сталовыя камісіі.

21. Хуткі рост гаспадарчай працы ЦРК, пашырэньне асартыменту тавараў, асабліва па групе сельска-гаспадарчых прадуктаў, і павышэньне патрэбнасьці спажыўцоў, разьвіцьцё соцыяльных галін працы ЦРК (грамадзкае харчаваньне, хлебапячэньне, сьвежая рыба і мясная справа, высоўвае пытаньне *аб павышэньні кваліфікацыі працаўнікоў коопэрацыі і аб падрыхтоўцы новых кадраў кваліфікаванай сілы.*

Да апошняга часу ня было ніякай сыстэматычнай і глыбокай працы ў гэтай галіне. Існаваўшыя па некаторым ЦРК курсы не далі дадатных вынікаў з прычыны таго, што пастаноўка гэтай справы была нездавальняючая. Віцебскі Коопэрацыйны тэхнікум пакуль што не наладзіў падрыхтоўку неабходнай сілы для рабочай коопэрацыі (прадаўцоў і заг. магазынаў). Індывідуальнае вучнёўства ў магазынах абстаіць слаба, організацыі не зьвяртаюць увагі на адбор вучняў, атсутнічае неабходнае нагляданьне і кіраўніцтва.

22. Справа павышэньня кваліфікацыі штату і падрыхтоўкі новых кадраў кваліфікаванай рабочай сілы павінна ўваходзіць у асноўныя мерапрыемствы оргпрацы рабочай коопэрацыі. Усялякая бяссыстэмнасьць і бяспланавасьць у гэтай працы павінны быць канчаткова зьнішчаны. Для гэтага неабходна: а) пры ўсіх ЦРК мець стала працуючыя школы і курсы для павышэньня кваліфікацыі працаўнікоў крам; б) праграмы гэтых школ павінны быць практычныя з абмяжованым кругам дысцыплін; в) навучаньне ў школе (курсах) павінна быць абавязковым для ўсіх прадаўцоў, хто адчувае ў гэтым патрэбу, якія з мэтай лепшай пасьпяховасьці, павінны быць пераведзены на ранішнюю працу альбо павінны аслабаняцца поўгадзіны ад службовай працы; г) разам з союзам саўгандслужачых павінны быць організаваны вытворчыя гурткі і групы завочнага абучэньня для асоб, неабхопленых школай, у асаблівасьці пры дробных Рабкоопах, дзе школы і курсы ня будуць організованы; д) дабіцца максімальнага зьмяншэньня бягучасьці складу; в) узмацніць увагу належнай пастаноўцы практычнага гандлёвага вучнёўства, шляхам: ускладваньня адказнасьці за гэтую справу на прадаўцоў і заг. магазынаў, да якіх прымацоўваюцца бронь-вучні, устанаўленьня процантнай надбаўкі на зарплату абучаючых, прахаджэньня вучнёўства па пэўнай праграме з наладжваньнем пэрыядычных праверак пасьпяховасьці, адказу ад погляду на вучняў, як выключна на рабочую сілу, організацыі абучэньня вучняў у магазыне і ў школе канторгуча, што павінна быць абавязковым для вучняў і коопэратываў, таксама неабходна ўтварыць школы канторгуча ў буйных гарадох; ж) шырэй практыкаваць пасылку стыпэндыятаў у спэцыяльныя коопэрацыйныя школы і слухачоў на коопэрацыйныя курсы Белкоопсаюзу ў Менску; з) паставіць на належную вышыню справу высоўваньня з коопактыву шляхам прымацаваньня вылучэнцаў да вопытных працаўнікоў, устанаўленьнем спрыяючых умоў абучэньня і матар'яльна забясьпечыць вучняў.

Белрабсэкцыі неабходна прыняць меры для рэарганізацыі Віцебскага Коопэрацыйнага тэхнікума ў бок падрыхтоўкі практычных працаўнікоў ЦРК (прадаўцы, заг. магаз.). Лічыць неабходным перанесьці тэхнікум у Менск.

Белрабсэкцыя павінна ўстанавіць свой уплыў на сыстэму кооп. асьветы па сетцы Наркамасьветы ў сэнсе яе дастатковага разьвіцьця і адпаведнасьці інтарэсам рабочай коопэрацыі.

Прызнаць неабходным організацыю працяжных экскурсій працаўнікоў ЦРК для вывучэньня пастаноўкі асобных галін працы ў буйных організацыях Саюзу.

23. Адной з важнейшых форм абслугоўваньня культурных патрэб пайшчыкаў зьяўляецца кніжны гандаль. Распаўсюджваньне кнігі сярод рабочых мае надзвычайна важнае значэньне.

Да апошняга часу праца з кнігай у сыстэме рабочай коопэрацыі амаль зусім ня была разгорнута. Гэтай працы не аддавалася ніякай увагі на мясцох, а з цэнтру ня было кіраўніцтва гэтай справай.

Сход Упаўнаважаных Белкоопсаюзу пастанавіў значна ўзмацніць працу коопэрацыі з кнігай, для чаго неабходна: а) ва ўсіх ЦРК організаваць кніжна-папяровыя магазыны і аддзелы пры універмагах, б) організаваць на буйных прадпрыемствах і пры сталоўках кніжныя кіёскі, в) асаблівую ўвагу зьвярнуць на прасоўваньне кооп. літаратуры і кніг на нацмовах і на організацыю водпуску кніг у крэдыт, г) кніжны гандаль павінен быць цесна зьвязаны з гандлем і іншымі таварамі культурнага ўжытку: канцэлярскімі, папяровымі, спортыўнымі прыладамі, фото і радыё апаратурай, д) у справу распаўсюджваньня кнігі належыць уцягнуць увесь коопэрацыйны актыў, зьвязаўшыся з мясцовымі культасьветнымі організацыямі.

24. *Пытаньне рацыяналізацыі і плянаваньня працы* ЦРК зьяўляецца ў сучасны момант надзвычайна актуальным.

Тыя дасягненьні, якія маюцца па ўсіх ЦРК у галіне плянаваньня коопэрацыйнай гаспадаркі, зьяўляюцца недастатковымі. Ня ўсюды прапрацоўваюцца і ўвязваюцца пляны ўсіх бакоў гаспадарчай дзейнасьці ЦРК. Сыстэматычная праверка выкананьня плянаў і ацэнка вынікаў дзейнасьці організацый пастаўлена далёка нездавальняюча. Кіраваньне гаспадаркай па пляну яшчэ недастатковa ўкаранілася ў практыцы ЦРК.

Неабходна ўзяць рашучы курс на ўзмацненьне элемэнтаў плянаваньня ў працы ЦРК шляхам сыстэматычнай прапрацоўкі і ўвязкі плянаў усіх бакоў дзейнасьці організацый, на дасканальным вучоце попыту і становішча рынкаў і шляхам рэгулярнай праверкі выкананьня плянаў. Па ўсіх ЦРК павінны працаваць *плянавыя* камісіі пры орг. аддзелах. Прапрацоўка плянаў павінна вытварацца на адпаведных сэкцыях упаўнаважаных. Кіраўніцтва Белрабсэкцыі ў галіне мэтодыкі і форм плянаваньня павінна быць узмоцнена.

25. У справе рацыяналізацыі сваёй дзейнасьці рабочая коопэрацыя мае некаторыя дасягненьні, асабліва ў параўнаньні з становішчам гэтай працы 2-3 гады таму назад. Залежныя выдаткі скарочаны з 6,77 проц. у 25/26 г. да 5,18 проц. у 3-м квартале 27/28 г., выдаткі на штаты—з 4,42 проц. да 3,38 проц. Суадносіны адміністрацыйна-кіраўнічага пэрсаналу да гандлёвага зьмяніліся з 1 : 4,7 на 1-е кастрычніка 1927 г. да 1 : 5,5 на 1-е ліпеня 1928 года.

Укараняецца ў практыку папярэдняе разважваньне тавараў, транзітны завоз у магазыны. Значна спрошчана рахунқаводзтва і справаздачнасьць. Праводзіцца больш рашучая барацьба з чаргамі.

Неабходна аднак канстатаваць, што патаненьне працы ішло пераважна па лініі колькаснай, часам у перашкоду якасьці абслугоўваньня спажыўца.

Становішча і якасьць абслугоўваньня спажыўца ў сучасны момант да таго нездавальняючае, што тыя дасягненьні, якія маюцца ў галіне рацыяналізацыі, зьяўляюцца зусім недастатковымі і ў гэтым напрамку яшчэ прыпадае вялізарная праца.

27. Грунтоўныя лініі рацыяналізатарскай працы ЦРК павінны быць накіраваны па пляну агульнага паляпшэньня і прыстасаваньня нашай крамнай сеткі і складзкое справы, грамадзкага харчаваньня і хлебапячэньня ўдасканаленьня тэхнікі працы ў межах існуючага становішча і абарудаваньня лавачнай сеткі.

Рацыяналізатарская праца павінна мець сваёй цэнтральнай устаноўкай паляпшэньне якасьці абслугоўваньня спажыўца. Кіраўніцтва і нагляданьне за працай па рацыяналізацыі павінна быць згрупавана пры оргаддзеле пад адказнасьць аднаго з працаўнікоў аддзелу і праводзіцца спэцыяльнымі камісіямі па рацыяналізацыі (аб'яднаюцца з плянавымі камісіямі). Адказнасьць за выкананьне рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў ускладаецца на адпаведныя аддзелы.

Асаблівую ўвагу ў парадку рацыяналізацыі працы неабходна аддаць пытаньням капітальнага будаўніцтва ў сэнсе зьмяшчэньня тых сродкаў, якія атрымліваюцца на гэта, у найбольш мэтазгодныя формы і тыпы будынкаў і з вучотам адзіных кіруючых плянаў цэнтру.

Першачарговай задачай бягучага пэрыяду зьяўляецца вывучэньне пытаньня аб зьнішчэньні чаргі і ў сувязі з гэтым аб нагрузцы і кваліфі-

кацыі штату, аб гандлёвай сетцы, аб тыпу магазынаў і разьмяшчэньні сеткі, аб гадзінах гандлю, пра абсталяваньне магазынаў і пабудову кас, аб унутраным распарадку магазынаў і правох загадчыка магазыну, аб забесьпячэньні магазынаў і інш. Далей неабходна вывучыць пытаньні аб працы цэнтральнага апарату і бухгальтэрыі, аб узаемаадносінах з вытворчымі прадпрыемствамі, аб тэхніцы збору паёў і шэраг іншых. Неабходна дабіцца хутчэйшага вырашэньня пытаньня аб устанаўленьні розных днёў выдачы зарплаты.

Рацыяналізатарская праца павінна вытварацца пры максімальным удзеле эканомкамісій і коопактыву з усебаковым прыцягненьнем друку.

Для лепшай пастаноўкі абслугоўваньня спажыўцоў Оргнарада лічыць неабходным паскорыць вырашэньне пытаньня аб далучэньні прыгарадных спажывецкіх т-ваў да ЦРК. У кожным асобным выпадку пытаньне павінна быць узгоднена з Белрабсэкцыяй і профсаветам. Забесьпячэньне прыгараднага насельніцтва павінна вытварацца шляхам павялічэньня долі тавараў для ЦРК за кошт адпавядаючых Спажыўсаюзаў.

28. *Коопэрацыйнае абслугоўваньне Чырвонай арміі* прыцягвае дастаткова ўвагі нашых рабочых коопэратываў. Маецца шэраг спэцыяльных вайсковых разьмеркавальнікаў, сталовак, вайсковых аддзелаў пры ўнівермагах і спэцыяльны вайсковы магазын у Менску.

Коопэрацыйнае абслугоўваньне Чырвонай арміі ў час лягернага збору і манэўраў заслужыла наогул добрыя водгукі камандскладу, таксама было забясьпечана і абслугоўваньне прызыўнікоў.

Ажыўлена праводзіцца праца коопэрацыйнага актыву. Удзел вайсковых у коопактыве даволі значны (190 упаўнаважаных ці 10,4 проц. агульнага складу ўпаўнаважаных і 223 члены крамных камісій, ці 10,8 проц. складу).

Па шэрагу гарадоў праводзіліся курсы для чырвонаармейцаў, якія дэмабілізуюцца.

Задачы паляпшэньня коопэрацыйнага абслугоўваньня Чырвонай арміі патрабуюць узмацненьня дзейнасьці рабочай коопэрацыі ў гэтым напрамку.

Для гэтага неабходна: а) прадаўжаць працу па прыстасаваньні сеткі разьмеркавальнікаў да патрабаваньняў Чырвонай арміі, б) па прыкладу мінулага году загадзе падрыхтавацца да абслугоўваньня лягернага збору і манэўраў, а таксама да абслугоўваньня тых, якія прызываюцца ў Чырвоную армію, в) асаблівую ўвагу аддаваць вайскова-коопэрацыйным камісіям і ўзмацненьню коопэрацыйна-асьветнай працы ў Чырвонай арміі.

29. У сваей працы, як арганізацыйнай, так і гаспадарчай, ЦРК павінны падтрымліваць цесную сувязь з профсаюзамі, інфармаваць іх аб усёй сваей дзейнасьці і прыцягваць да ўсебаковай падтрымкі ўсіх мерапрыемстваў рабочай коопэрацыі па паляпшэньні абслугоўваньня рабочага спажыўца.

30. Вялізарнай важнасьці задачы арганізацыйнай працы, якія стаяць перад рабочай коопэрацыяй, патрабуюць для свайго выкананьня ўзмацненьня працы оргаддзелаў ЦРК. Як правіла, оргпрацай кіруе член праўленьня. Штат інструктароў павінен быць здавальняючы, па сваёй кваліфікацыі і колькасна-дастатковы для правядзеньня ўсіх разнастайных і складаных задач. Цэрабкоопы з лікам пайшчыкаў да 7.000 павінны мець аднаго інструктара, да 15.000—двох, да 35.000—трох, звыш 35.000—чатырох. У сярэдніх і буйных ЦРК штат оргаддзелу павінен быць папоўнены інструктарам-культурнікам і статыстыкам-эканамістым.

Акрамя таго да сталай оргпрацы неабходна прыцягнуць па некалькі інструктароў-грамадчыкаў. Праца інструктара павінна быць організована так, каб ён меў магчымасьць падвышаць сваю кваліфікацыю і найбольш поўна і мэтазгодна выпаўняць свае функцыі. Калегіяльнасьць, апора на коопактыў і ўвязка з профсаюзамі—павінны быць асноўнымі мэтадамі працы оргаддзелаў. Справаздачнасьць оргаддзелаў перад праўленьнем і коопактывам павінна быць пэрыядычнай.

# ДЫРЭКТЫВЫ БЕЛКООПСАЮЗУ

## Аб сыстэме справаздачнасьці ў спажывецкай кооперацыі Беларусі.

Узгоднена з НК РСІ БССР.

*Усім организацыям спажывецкай кооперацыі БССР.*

Па ўзгадненьні з зацікаўленымі ўстановамі НК РСІ БССР зацьверджана на 1928-29 г. наступная сыстэма справаздачнасьці, абавязковая для ўсіх зьвеньняў спажыўкооперацыі БССР.

а) дэкадная—(па загатоўках і хлебных опэрацыях), б) месячная, в) квартальная, г) гадавая.

Парадак прадстаўленьня справаздачнасьці асобнымі звеньвямі спажывецкай кооперацыі на 1928-29 г. устанаўляецца наступны:

### А. Спажывецкія таварыствы.

1. Высылаюць дэкадныя опэрацыйныя весткі аб хлебных опэрацыях (форм. № 1—хл.) свайму Саюзу 1, 11, 21 чысла кожнага месяца.
2. Дэкадныя опэрацыйныя весткі аб загатоўцы с.-гасп. сыравіны (ф. № 4—заг.) высылаюцца свайму Саюзу 1. 11, 21 чысла кожнага месяца.
3. Месячныя весткі аб загатоўцы, рэалізацыі і наяўнасьці с.-гасп. сыравіны (форма № 1—заг.) высылаюцца свайму Саюзу 3-га чысла наступнага за справаздачным м-ца.
4. Картка дробных цэн на 1-е чысло кожнага м-ца (ф. № 13) высылаецца свайму Саюзу 3-га чысла таго-ж месяца (30 проц. т-ваў).
5. Тэрміновая картка штомесячнага вучоту спаж. т-ваў (форма ЦСУ) высылаецца Белкоопсаюзу, Акрстатбюро 5-га чысла кожнага месяца (35 проц. спаж. т-ваў).
6. Штомесячная картка «Асноўныя паказацелі дзейнасьці» (ф. № 4) высылаецца свайму Саюзу 5-га чысла кожнага месяца.
7. Квартальная справаздача (ф. № 3) высылаецца свайму Саюзу праз 20 дзён пасьля справаздачнага кварталу.
8. Гадовая справаздача за 1927-28 г. (ф. № 1) высылаецца свайму Саюзу 15-га лістапада 1928 г.

### Б. Цэрабкоопы.

1. Дэкадныя опэрацыйныя весткі аб хлебных опэрацыях (ф. № 2—хл.) высылаюцца Белкоопсаюзу і акргандлыінспэктару 1-га, 11-га і 21-га кожнага месяца.
2. Дэкадныя опэрацыйныя весткі аб паступленьні, рэалізацыі і наяўнасьці хутка-псуючыхся прадуктаў (ф. № 2—3-ая) высылаюцца Белкоопсаюзу і акргандлыінспэктару 2-га, 12-га і 22-га чысла кожнага месяца.

3. Картка дробных цэн на 1-е число кожнага месяца (ф. № 12) высылаецца Белкоопсаюзу, акргандльінспэктару і Статаддзелу Цэнтрасаюзу СССР 3-га числа таго-ж месяца.

4. Тэрміновая картка штомесячнага вучоту ЦРК (ф. ЦСУ) высылаецца Белкоопсаюзу, Акрстатбюро і Статаддзелу Цэнтрасаюзу 6-га числа кожнага месяца.

5. Зьвесткі аб запасах хлеба на 1/I,, 1/IУ, 1/VII і 1/X-1929 г. (ф. ЦСУ) высылаюцца Акрстатбюро праз 7 дзён пасьля справаздачнай даты.

6. Квартальная справаздача (ф. № 6) высылаецца Белкоопсаюзу праз 30 дзён пасьля справаздачнага кварталу.

7. Гадавая справаздача за 1927-28 г. (ф. № 5) высылаецца Белкоопсаюзу 25 сьнежня 1928 г.

8. Па цэнзавых прамысловых прадпрыемствах ЦРК высылаюць свайму Акрстатбюро наступныя формы:

а) картку тэрміновага данясеньня—не пазьней 7-га числа наступнага за справаздачным месяца,

б) картку аб працы (ф. № 1 ЦСУ)—не пазьней 65 дзён пасьля справаздачнага месяца,

в) картку аб зарплаце (ф. № 2 ЦСУ;—не пазьней 20 дзён пасьля справаздачнага месяца,

г) гадавы статыстычны блянк «Б» за 1927-28 г.—у тэрмін, устаноўлены ЦСУ.

Адбіткі картак тэрміновых данясеньняў высылаюцца гл. п. „а“ штомесячна стат. п/аддзелу Белкоопсаюзу.

Увага: 1. Карткі дробных цэн і тэрміновыя карткі штомесячнага вучоту Шклоўскі, Мазырскі і Полацкі ЦРК статаддзелу Цэнтрасаюза СССР—не пасылаюць.

2. Зьвесткі па табліцы № 11 квартальнай і гадавой справаздачы „Уклады“ высылаюцца акрфінаддзелу ў тыя-ж тэрміны, якія ўстаноўлены для гэтых справаздач.

### В. Спажыўсаюзы.

*Па Саюзу:*

1. Дэкадныя опэрацыйныя весткі аб хлебных опэрацыях (ф. № 3—хл.) высылаюцца Белкоопсаюзу і акргандльінспэктару 1-га, 11-га і 21-га кожнага месяца, па кожнаму аддзяленьню Саюзу.

2. Опэрацыйныя весткі аб загатоўцы, рэалізацыі і наяўнасьці сельска-гаспадарчай сыравіны (ф. № 3—заг.)—Белкоопсаюзу і акргандльінспэктару 5-га числа кожнага месяца, па кожнаму аддзяленьню.

3. Картка гуртавых цэн Саюзу на 1-е число кожнага месяца (ф. № 11) высылаецца Белкоопсаюзу і акргандльінспэктару 3-га числа таго-ж месяца.

4. Тэрміновая картка штомесячнага вучоту Саюзаў (ф. ЦСУ) высылаецца Белкоопсаюзу і акрстатбюро 8-га числа кожнага месяца, па кожнаму аддзяленьню.

5. Зьвесткі аб запасах у Саюзе хлеба і сельска-гаспадарчай сыравіны на 1/1, 1/IV, 1/VII і 1/X-29 г. (ф. ЦСУ) высылаюцца акрстатбюро праз 7 дзён пасьля справаздачнай даты па кожнаму аддзяленьню.

6. Квартальная справаздача (ф. № 8), уключаючы балянс на 1-е чысло наступнага кварталу, высылаецца Белкоопсаюзу праз 30 дзён пасьля справаздачнага кварталу.

7. Гадавая справаздача за 1927-28 г. (ф. № 7), уключаючы балянс на 1/X-28 г. высылаецца Белкоопсаюзу не пазьней 1-га студзеня 1929 г.

*Па сваёй сетцы:*

8. Зводка дэкадных опэрацыйных вестках аб хлебных опэрацыях (ф, № 1—хл.) высылаецца Белкоопсаюзу і акргандлыінспэктару 6-га, 16-га і 26-га чысла кожнага месяца, па кожнай акрузе паасобку.

9. Зводка дэкадных опэрацыйных вестак аб загатоўцы сел.-гасп. сыравіны (форма № 4—заг.) высылаецца Белкоопсаюзу і акргандльінспэктару 6-га, 16-га і 26-га кожнага месяца, па кожнай акрузе паасобку.

10. Зводка месячных вестак аб загатоўцы, рэалізацыі і наяўнасьці с.-гасп. сыравіны (форма № 1—заг.) высылаецца Белкоопсаюзу і акргандльінспэктару 9-га чысла наступнага за справаздачным месяца па кожнай акрузе паасобку.

11. Зводка дробных цэн спажыўтаварыстваў (форма № 13) высылаецца Белкоопсаюзу і акргандльінспэктару не пазьней 15-га чысла кожнага месяца, па кожнай акрузе і па вясковых, местачкова-гарадзкіх таварыствах паасобку.

12. Зводка месячных картак «асноўныя паказацелі дзейнасьці» (форма № 4) высылаецца Белкоопсаюзу 15-га чысла пасьля справаздачнага месяца, па кожнай акрузе, вясковых, местачковых, гарадзкіх спажтаварыствах паасобку.

13. Картка складу сеткі на 1/I, 1/IV, 1/VII і 1/X-29 г. (форма № 10) высылаецца Белкоопсаюзу праз 45 дзён пасьля справаздачнай даты, па кожнай акрузе і па кожнаму тыпу таварыстваў паасобку.

14. Зводка квартальных справаздач спажыўтаварыстваў (форма № 3) высылаецца Белкоопсаюзу праз 45 дзён пасьля справаздачнага кварталу, па кожнай акрузе і па кожнаму тыпу таварыстваў паасобку.

15. Зводка гадавых справаздач спажтаварыстваў за 1927-28 г. высылаецца Белкоопсаюзу 15-га студзеня 1929 г. па кожнай акрузе і па кожнаму тыпу спажтаварыстваў паасобку.

16. Сьпісак спажыўтаварыстваў на 1-е кастрычніка 28 г. (форма № 1) высылаецца Белкоопсаюзу і акрстатбюро не пазьней 1-га лютага 1929 г.

Увага: Зводкі табліцы квартальных і гадавых справаздач спажтаварыстваў аб укладных опэрацыях прадстаўляюцца ў тыя-ж самыя тэрміны акрфінаддзелу.

Формы і тэрміны прадстаўленьня зьвестак па выкананьні пляна ўстанаўляюцца асобна і будуць паведамлены дадаткова.

У межах устаноўленых правіламі публічнай справаздачнасьці, Спажыўсаюзы і наступныя ЦРК: Менскі, Гомельскі і Віцебскі—прадстаўляюць зьвесткі акрфінаддзелам па месцу знахаджэньня іх праўленьня.

З іншых мясцовых організацый маюць права патрабаваць сыстэмную справаздачнасьць у межах устаноўленых форм і тэрмінаў толькі акруговыя плянавыя камісіі (Акрпляны).

Ніякія зьмены, скарачэньні і дапаўненьні ў аб'ёме, формах, тэрмінах і парадку прадстаўленьня справаздачнасьці сыстэмай спажыўкооперацыі ня могуць быць дапушчаны без папярэдняга ўзгадненьня з Белкоопсаюзам, НК РСІ БССР і зацікаўленымі ведамствамі.

Організацыі спажывецкай кооперацыі нікому не абавязаны прадстаўляць іншых зьвестак, па іншых формах і ў іншыя тэрміны, акрамя пералічаных у гэтым абежніку.

Старшыня Праўленьня БКС *Наўлянскі.*

Заг. Стат. п/ад. *Кабакоў.*

№ 680 12/1—1929 г.

## Аб забароне патрабаваньня зьвестак рознымі організацыямі па неўстаноўленых формах.

*(Абежнік НК РСІ).*

НК РСІ паведамляе, што акрамя форм справаздачнасьці, устаноўленых НК Гандлем і Белкоопсаюзам і зацьверджаных НК РСІ, ніякія дадатковыя зьвесткі па іншых формах, тэрмінах і аб'ёму ня могуць патрабавацца ніякімі ўстановамі, у прыватнасьці Акр. Гандл. Інспэкцыямі, аб чым прапануецца вам растлумачыць, як па лініі сыстэмы спажывецкай кооперацыі, таксама па лініі органаў Наркамгандлю.

Член Калегіі НК РСІ БССР **Ракаў.**

№ К. 275—101, 15-I—29 г.

## Аб парадку замены згубленых кооперацыйных членскіх (заборных) кніжак.

*Узгоднена з НКЮ БССР—адносьнік яго да БКСаюзу ад 21/I-29 г. за № 77—2.*

*Усім ЦРК і Спажыўтаварыствам БССР.*

Практыкуемы да гэтага часу парадак аднаўленьня згубленых кооперацыйных кніжак шляхам публікацыі аб іх згубе ў друку не адпавядае патрэбам кооператываў і задачам барацьбы са злоўжываньнем згубленымі кніжкамі пры атрыманьні дэфіцытных тавараў. Справа ў тым, што па кооперацыйнай кніжцы тавар можна атрымаць толькі з крам таго кооператыву, які кніжку выдаў. Пагэтаму абвяшчэньне аб згубе і неправадзейнасьці кооперацыйнае кніжкі, замест друкаваньня ў газэце, трэба вывешваць ва ўсіх крамах, крамах кооператыву і перадаваць усім крамным касірам і загадчыкам крам кооператыву. Пры такіх умовах перад вачыма касіраў і загадчыкаў крам, якія робяць адзнакі ў кооперацыйных кніжках аб водпуску дэфіцытных тавараў, заўсёды будуць знаходзіцца сьпісы і нумары згубленых

і неправадзейных кніжак, і толькі такім чынам могуць быць папярэджаны злоўжываньні кніжкамі. Публікацыя аб згубе кніжкі ў газэце дае фікцыю ўсеагульнае сьвядомасьці аб гэтым, а ў сапраўднасьці яна не паведамляе нават тых асоб, якія ў першую чаргу павінны ведаць аб гэтым і папярэджваць злоўжываньні кніжкамі.

Абвяшчэньні аб згубе кніжак павінны рабіцца па атрыманьні аб гэтым заяў ад пайшчыкаў. Праз месяц пасьля атрыманьня заявы пайшчыку выдаецца дублікат кніжкі з надпісам: „Дублікат, выдадзены замест згубленае кніжкі“. Аб выдачы дублікату робіцца адзнака ў картцы пайшчыка (або ў кнізе пайшчыкаў).

Па дублікату кніжкі выдача дэфіцытных тавараў не вытвараецца, як за мінулы час, так і па распачатым ужо выдачам за бягучы час.

Выдача другіх дублікатаў у выпадку згубы першых вытвараецца такім самым чынам.

Скарыстаньне згубленых коопэрацыйных кніжак асобаю, якая знайшла іх, для сваіх інтарэсаў выклікае адказнасьць апошняй у крымінальным парадку. У кожным выпадку такога злоўжываньня трэба падаць заяву міліцыі аб прыцягненьні вінаватых да адказнасьці.

На пакрыцьце выдаткаў коопэратыву па абвяшчэньню аб згубе коопэрацыйных кніжак праўленьне коопэратыву можа ўстанавіць плату ў разьмеры ня звыш 50 кап. за кожную кніжку.

Старшыня праўленьня БКС **Няўлянскі**.

Старшыня прэзыдыуму РРС **Кумкес**.

№ 418. 9-I--1929 г.

# НАША КОНСУЛЬТАЦЫЯ

## Аб нормах спэцвопраткі, якая павінна выдавацца рабочым і служачым коопорганізацый.

*Пасланец:* — 1) брэзэнтавая накідка тэрмінам на 2 гады, 2) цьвёрдыя валёнкі на 2 зімовыя сэзоны, 3) камашы на 1 год, 4) цёплая шапка да зносу.

*Вартаўнік:* — 1) футра на 3 зімовых сэзоны, 2) брэзэнтавая накідка—на 2 гады, 3) цьвёрдыя валёнкі—на 2 зімовых сэзоны, 4) цёплая шапка—да зносу, 5) рукавіцы—да зносу.

*Апальнік:* — 1) брэзэнтавая куртка—на 2 гады, 2) брэзэнтавыя рукавіцы—да зносу.

*Дворнік:* — 1) брэзэнт. фартук—да зносу, 2) брэзэнт. рукавіцы —да зносу.

*Машыністка:* — два халаты з лёгкае тканіны—на 1 год.

*Кухар—(ка) і раздатчыкі яды:* — 1) 2 курткі—на 1 год, 2) 2 фартукі—да зносу, 3) 2 каўпакі—да зносу.

*Прачка:* — 1) 2 халаты—на 1 год, 2) касынкі да зносу, 3) камашы 1 пара—на 1 год.

*Пасудамойкі*: — 1) 2 фартукі—да іэносу, 2) 2 касынкі—да іэносу.

*Прыбіральтчыцы*:—1) 2 халаты з лёгк. ткан.—на 1 г., 2) 2 касынкі—да іэносу, 3) скураныя камашы 1 пара—на 1 год.

*Падавальшчыкі яды*—2 куртві на 1 год, фартукі па меры патрэбы.

*Кухонныя рабочыя*—касьцюм з шчыльнае тканіны на 1 год 2 фартукі, 2 пары рукавіц, 2 каўпакі да іэносу.

*Кладаўшчыкі прадуктаў*—халат брээнтавы на 1 год, валенкі 1 пара на 2 сэзоны, рукавіцы бразэнтавыя да іэносу.

*Прадаўцы і сартавальнікі футравых вырабаў*:—Парусінавы халат—на 1 год.

*Прадаўцы хлебных магазынаў і цукерняў*:—2 халаты з лёгкае тканіны—на 1 год.

*Агенты, інструктары, экспэдытары, рэвізоры — разьяздныя*: — Паліто брээнтавае, валёнкі, поўшубак—на час камандыровак па-за местам сталае працы.

*Рабочыя і прадаўцы драўляных складаў*:—Фартук брээнт. з нагрудн.—да іэносу, рукавіцы—да іэносу.

*Прыказчыкі пры мясных крамах і складах*:—Халат парусінавы—6 м.; рукавіцы брэзэнтовыя—да іэносу.

*Прыказчыкі каленіяльна-бакалейных магазынаў і крам*: —Фартук з нагруднікам да іэносу, нарукаўнікі—да іэносу.

*Прыказчыкі ў маскацельных крамах, складах, адпускаючыя газу, масла, хварбу і г. д.*: — Фартук з нагр. парусінав.—да іэносу, нарукаўнікі—да іэносу, рукавіцы скураныя—да іэносу.

*Прыказчыкі жалезна-скабяных крам і складаў*: — Фартук брээнтавы—да іэносу, рукавіцы брээнтавыя—да іэносу.

*Прыказчыкі скураных і сыр'явых складаў*:—Фартук брээнтавы з нагр.—да іэносу, рукавіцы брээнтавыя—да іэносу.

*Рабочыя на складах і ўпакоўшчыкі тавараў*:—Фартук брээнтавы з нагр.—да іэносу, рукавіцы брээнт. ці скураныя—да іэносу.

*Ратапаршчыкі*:—халат на 1 год.

Увага 1. У выпадку нявыдачы спэцвопраткі рабочым і служачым выплачваецца яе каштоўнасьць (арт. 141 і 142 КЗ о Т).

Увага 2. Калектыўнаю ўмовай магчыма павялічаць і памяншаць нормы спэцвопраткі, але ні ў якім разе не пагоршыць.

(Пастановы НКПрацы БССР: ад 15-Х—28 г., № 67, «Бюл. СНК БССР» за 28 г. № 13; НКПрацы СССР ад 27-XI—28 г. № 695, «Изв. НКТруда»—1928 г. № 51-52; ад I-VIII—23 г. № 140—Зб. норм спэцвопраткі НКПрацы СССР—23 г. ад 27/V—24 № 243/401—«Изв. НКТруда» СССР, 24 г. № 23).

# ХРОНІКА.

## *Па Белкоопсаюзу.*

* Спажывецкай коопэрацыяй Беларусі з 1 кастрычніка 1928 г. па 1 студзеня 1929 году *загатоўлена сыравіны* на суму 1.645 тысяч руб. ці 101,2 проц. квартальнага пляну.

Па асобным відам сыравіны маецца наступнае выкананьне квартальнага пляну: ільнавалакна загатоўлена 1339 тон ці 175,4 проц. пляну, буйнай скурасыравіны 43.981 штук—156 проц. пляну, конволасу 14,2 тон—116 проц., шчаціньня 14 тон—112 проц., пенькі 50 тон—98 проц., дробнай скурасыравіны 48.359 штук—73,5 проц., грыбоў 31,3 тоны—67 проц., лектру на суму 44.300 руб.—58 проц., яек 846 скрынак—54 проц., рызьзя 445 тон—49 проц. і іншай сыравіны на суму 116.000 руб. ці 47 проц. квартальнага пляну.

Асабліва слабае выкананьне пляну па асобных відах сыравіны тлумачыцца недастатковай увагай організацый да загатоўкі гэтай сыравіны.

* *Па загатоўцы хлеба* непасрэдна ад сялян спажывецкая коопэрацыя за мінулае загатоўчае паўгодзьдзе (з 1 ліпеня па 1 студзеня) выканала 68,7 проц. гадовага пляну, а па памольнаму збору—42,9 проц. і ўдзельная вага яе сярод іншых загатоўчых організацый перавышае ўдзельную вагу па пляну на 17,7 проц.

*Ільнанасеньня* па пляну было вызначана загатовіць 3.675 тон, а загатоўлена 5.062 тоны. Плян выканан на 137,7 проц. і фактычная ўдзельная вага спажывецкай коопэрацыі сярод іншых загатоўцаў складае 39,5 проц. супроць 25 проц. па пляну.

У параўнаньні з першым паўгодзьдзем 1927-28 г. маецца павялічэньне загатовак па хлебафуражу на 23,2 пр. (у мінулым годзе—5.660 тон, а ў гэтым годзе 6.977 т.) і па ільнанасеньню на 264,1 проц. (у мінулым годзе—1.390 тон, у бягучым—5062 тоны).

## *Па саюзах.*

* Загатоўка *хлебафуражу і ільнанасеньня* па асобных Саюзах за мінулае загатоўчае паўгодзьдзе (ліпень—сьнежань) у параўнаньні з гадавым плянам, выканана ў наступных процантах: Менскае аддзяленьне БКС па загатоўцы ад сялян выканала гадавы плян на 34,9 пр., па памольнаму збору на 54,8 проц. і па ільнанасеньню на 171 проц.; Слуцкае аддз. БКС—па загатоўцы ад сялян на 106,6 проц., па памольнаму збору на 60,4 проц. і па ільнанасеньню на 250 проц.; Бабруйскі саюз—ад сялян на 78,5 проц., па памольнаму збору на 39,2 проц. і па ільнанасеньню на 301 проц.; Днепрасаюз (Орша)—ад сялян на 36 проц., па памольнаму збору на 37,2 проц. і па ільнанасеньню на 103 проц.; Магілеўскае аддзяленьне—ад сялян 89,9 проц., па памольн. збору на 45 проц. і па ільнанасеньню на 203 проц.; Гомельскі саюз ад сялян на 82 проц., па памольным збору на 21,9 проц. і па ільнанасеньню на 197,5 проц.; Мазырскае аддзял.—ад сялян на 304 проц., па памольн. збору на 59,6 проц. і па ільнанасеньню на 171,9 проц.; Віцебскі саюз—ад сялян на 25,3 проц., па памольн. збору на 55,1 проц. і па ільнанасеньню на 64,2 проц.; Полацкае аддзяленьне па загатоўцы непасрэдна ад сялян выканала свой плян на 15,8 проц., па памольнаму збору на 43,2 проц. і па ільнанасеньню на 28,3 проц.




Адказны рэдактар—Оргкіраўніцтва БКС. Выдавец—Белкоопсаюз.

Цана 15 кап.



Друкарня „БДВ“. Заказ № 1475—900. Галоўлітбел № 747.

